Самапамач Гаспадарскі

№ 5 (58). Год VI. Вільня. 25 Красавіка, 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4. Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

# Ня у ліку сіла

Так склалася, што пад рад ў трох апошніх нумарох „Самапомачы," на першым месцы, гаварылі мы аб сіле сялянства і аб тым, як кожны хацеў-бы гэту сілу выкарыстаць для сваіх мэтаў. Ці гэта „сіла" ў нашых беларускіх варунках ёсьць сапраўднай сілай, з каторай кожны ўжо сяньня мусіць рахавацца, ці гэта толькі „чмут" кіданы ў вочы, каб не аднаго з нас асьляпіць, абдурыць і выкарыстаць?

Што сялянства, як такое, бязумоўна можа быць сілай, аб гэтым ніхто з здаровым розумам спрачацца ня стане. Але было-б вельмі рызыкоўным і проста небясьпечным угаварываць сабе сягоньня, што мы ўжо сіла і бяз нас, а тымбольш проціў нас нічога ня зробіш. Гэтага сягоньня беларускі селянін—земляроб сказаць ня можа. Чаму? Бо, жывучы ў рассыпцы, неарганізавана, без належнай асьветы агульнай і тымбольш фахова-земляробскай, фактычна прадстаўляе ён сабой сілу вельмі малую. Адзінае, што ў нашага сялянства асталося пасьля мінулых вякоў няволі, гэта ягоны мільённы лік. Але й гэта што-ж знача ў сягоньняшні век жалеза й атрутных газаў? Роўна нічога. Індусаў налічаюць трыста мільёнаў, кітайцаў — чатырыста мільёнаў, а кіруе імі жменька „цывілізаваных" эўрапэйцаў. А што-ж проціў гэтых вялікіх лічбаў значаць ня цэлыя паўтара дзесятка мільёнаў сялян беларусаў?

Усё гэта разам узяўшы лёгка зразумець, што сяньня самым толькі лікам беларускі селянін нігдзе і нічога не дабʼецца; а калі чаго дабіцца хоча, дык мусіць выкрасіць з самога сябе такую сілу, якая сягоньня мае вагу. Такой „новачаснай" сілай ёсьць **нацыянальна-грамадзкая сьведамасьць, пры адначасным павышэньні агульнай і фаховай культуры.** Хоць аб гэтым няраз ужо пісалася, то аднак сягоньня мусім аб гэтым прыпомніць з асаблівым націскам.

Не аднаму здаецца, пашто канешна варочацца да сваей нацыянальнай культуры, калі яна, быццам, слабейшая, а ён добра патрапіць карыстаць з культуры чужой? Пашто, здавалася-б, рабіць такі „крок узад"?

Вот-жа гэтак думаць ня можна, як **ня можна жыць чужым розумам.** Чужая культура гэта тое самае, што штучнае падкармліваньне—жывёлы ці расьліны: раней ці пазьней гэта дарагое падкармліваньне мусіць астанавіцца, а разам з гэтым наступіць заміраньне. І наадварот, родная нацыянальная культура гэта собскае карэньне ў сваей собскай глебе. Толькі недазнанае дзіця або агранічаны ў розуме чалавек, які ня бачыць карэньняў расьліны і не разумее як расьліна корміцца, можа думаць, што карэньне для расьліны непатрэбнае. Чалавек пры поўным розуме гэтага сказаць ня можа. Гэтак сама ня можа сказаць, што непатрэбна свая родная нацыянальная культура. Іншая рэч, што ня кожны здольны гэта адразу зразумець і для такіх у першую чаргу празначаны гэтыя радкі. Ніхто хай ня думае, што кагосьці ашукае, кагосьці выперадзіць, калі пойдзе „простай" дарогай, сваю родную культуру абмінаючы. Нікуды гэтак ня дойдзе, а ашукае толькі самога сябе. Расьці ня будзе датуль, пакуль ня выгадуе свайго собскага „карэньня," сваей собскай культуры.

Дык у наступаючых вясьняных і летніх працах у полі хай ніхто не замыкаецца ў вузкім сваім панадворку і ня думае, што ён усё знае, што ён найлепш патрапіць усё зрабіць. Наадварот, хай кожны пацікавіцца, як жывуць і як працуюць людзі кругом, а заўсяды нешта карыснае для сябе знайдзе. Ня трэба на гэта нікуды ехаць: досыць стала чытаць і цікавіцца, што пішуць аб гаспадарцы свае кніжкі, часапісы, а дробная цана іхняй падпіскі заўсяды аплаціцца шмат разоў.

Чытаньнем добрай літаратуры ўсьведамімся аб патрэбе арганізацыі. А ўсё разам—родная **асьвета і арганізацыя** — дадуць нам **сілу** сапраўдную.

# Коопэратыўнае малачарства ў Віленшчыне і Наваградчыне.

Паводле абавязуючых законаў, усе нашы коопэратыўныя малачарні павінны належаць да польскага „Związku Spółdzielni Rolniczych i Zarobkowo-Gospodarczych“. Віленскі Аддзел гэтага саюзу абыймае Віленшчыну й Наваградчыну. Паводле справаздачы гэтага Аддзелу, стан коопэратыўнага малачарства на гэтым абшары пры канцы 1936 году прадстаўляўся гэтак: Усяго коопэратыўных малачарняў было 78 і 140 сьметанчарняў (зьліўных пунктаў, дзе з малака толькі выкручваецца сьмятана), у якіх было сарганізавана 23.744 сябры, каторыя за год даставілі 39.742.000 літраў малака. З гэтага ліку толькі 6 коопэратываў займаліся вырабам сыру (тыпы голяндзкі і эмэнтальскі), 1 коопэратыва дастаўляла сьвежае малако ў Вільню, а рэшта перараблялі малако на масла. Гры сыраварні ў Дзікушках, Шчуч. пав., стараньнем Віл. Зямл. Палаты і пад кіраўніцтвам праф. Домброўскага з Варшавы сарганізавана сыраварская дасьледчая станцыя, на каторай вучацца будучыя сыравары.

Усе саюзныя малачарні за мін. год вырабілі 1.605.000 кілёгр. масла і 156.000 кілёгр. сыру і выплацілі за дастаўлены тавар сялянам 3.545.000 зл., самі атрымоўвуючы 4.326.500 зл. Малачарні, што вырабляюць масла, бяруць ад сялян толькі сьмятану, а поснае малако аддаюць назад. За сьмятану з аднаго літра малака коопэратывы выплачвалі ў сярэднім няцэлыя 9 (дакладна 8.92) грашоў, а самі бралі няцэлыя 11 (дакладна 10.88) грашоў. За 1 прац клустасьці ў малацэ коопэратывы плацілі 2.35 (два і адна трэцяя часьць) граша.

Гандлёвая цэнтраля саюзных малачарняў знаходзіцца ў Вільні, а аддзелы — у Баранавічах, Горадні і Лідзе. — Чатырагодні плян працы Саюзу прадбача ў наступным годзе падцягнуць даставу малака ў малачарні на гэтулькі, каб кожная з іх праз цэлы год мела ня менш паўтары тысячы літраў.

---

## Hałoŭnyja asiarodki pachodžańnia kulturnych raślin pavodle N. Vaviłava:

(*Mapa da nižej padanaha artykułu: „Adkul pachodziać kulturnyja raśliny).*

I Azija pd.-zach.; II — Indyja: III — Hornaja Kitajščyna; IV — Harystyja Siarodziemnamorskija pabiarežžy; V — Abisynija j Erytreja; VI — Amerykanskija asiarodki.




---

# Adkul pachodziać kulturnyja raśliny. (2)

Takich asiarodkaŭ pachodžańnia raślin pavodle Vaviłava jość tolki 6:

1) Krainy paŭdzionna-zachodniaje Azii (ad uschod. častki Małoj Azii až da Afhanistanu j paŭnočna zach. Indyi) – adhetul vyvodzicca zvyčajnaja pšanica, žyta, lucerna, drobnanasiennyja formy lonu, sačyŭki j inš. Z sadoviny: višnia, śliva, jabłynia, mihdał, vinahrad, ajva j šmat inš.

2) Paŭnoč-uschod. Indyja z prylehłaju častkaju Inda-Kitaju — tutaka znachodzicca asiarodak ryžu, cukrovaha tryśniku, niekatorych hatunkaŭ bavoŭny, bananu j inš.

3) Horny Kitaj z prylehłymi krainami — tutaka lažać formatvorčyja asiarodki prosa, soi, hołych jačmianioŭ i aŭsoŭ, morvy j inš.

4) Harystaje Siarodziemnamorskaje pabiarežža (za vyniatkam Ałžyru, Tunisu j Marokka) – baćkaŭščyna bujnanasiennaha lonu, harochu, sačyŭki, bizantyjskaha aŭsa, a z sadoviny — aliŭki, fihi, śviatajanskaha chleba.

5) Abisynija j susiednija krainy baćkaŭščyna ćviordych pšanicaŭ, častkava jačmianioŭ, harachoŭ i bavoŭniku. Narešcie

6) Amerykanskija asiarodki (najvažniejšyja: meksykanski j peruanski) — baćkaŭščyna bulby, kukuruzy, fasoli, tytunu, dyni, pamidoraŭ, sonieśniku j inš.

Z hetaha supastaŭleńnia vidać važnaja rol hornych krainaŭ. Najbolšaje bahactva formaŭ karysnych u ziemlarobstvie raślin Vaviłaŭ vykryŭ nie ŭ vialikich dalinach, što zdavion ličylisia vohniščami kultury, ale ŭ bližejšych horach, u vakolicach z najbolej pieršabytnymi formami ziemlarobstva. Nie Mezopotamija, ale hornyja krainy Zakaŭkaźzia, nie dalina Indu, ale blizki Hindukuš, nie Čanh, ale prylehłyja Himałai i h. d.

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Наша бульба.

І што цікавае можна йшчэ сягоньня сказаць аб бульбе — падумае не адзін. І памыліцца. Бо тое, што бульбу садзім у нас ужо бл'зу 100 гадоў (ад 1840 г.), яшчэ ня доказ, што ня робім пры гэтым тым горшых, бо векавых, застарэлых абмылак. А абмылкі сягоньня каштуюць грубыя грошы.

Першая абмылка — малаўважнасьць пры выбары бульбы на насеньне. У большасьці прынамся гаспадарак на насеньне астаецца тое, чаго праз год не скармілася жывёлай, а знача рэшткі, часта ра бачлівыя, прымарожаныя, падгніўшыя. Калі гэткі падбор насеньня паўторыцца адзін год, другі, дык сама бульба зусім зводзіцца. Таму першае правіла: на насеньне выбіраць бульбу не вясной, а йшчэ ўвосені; праз зіму яе трымаць асобна, вясной узноў перабраць і тады толькі садзіць. Больш таго: у кожнай гаспадарцы, большай ці меншай, трэба насенную бульбу асобна трымаць не толькі ў варыўні, але асобна яе і садзіць, выбраўшы на гэта апаведны, добра выраблены і пагноены кусок грунту. Гэтак высаджаную бульбу трэба праз лета пільнаваць — з яе дачакаемся добрай, здаровай, плоднай сяўбы на год наступны.

А што рабіць, калі сяўбы не хапае? Кожны адкажа — рэзаць! Пэўна ж.. Але ўраджай з рэзанай сяўбы ніколі ня будзе так пэўным, як з бульбы цэлай, ня дробнай, але і не вялікай, на кілё 20—25 штук. Калі-б аднак прыйшлося сяўбавую бульбу рэзаць, дык ведайма, што плодныя вочкі мае верхняя часьць бульбіны: гэ'у часьць можна выкарыстаць для сяўбы, а споднюю — для корму Але пры недастачы сяўбы прыходзіцца разрэзываць бульбіну ўздоўж.

Першыя расткі бульбы вельмі чуткія на прымаразкі, таму садзіцца бульба тады толькі, калі глеба прагрэецца — ня менш 7 8° Ц на глыбіне 10 см. Асабліва небясьпечна непрагрэтая і сырая глеба для бульбы сьвежа-парэзанай, незавяўшай. Дзеля таго парэзаную сяўбавую бульбу трэба на дзён 5—10 разлажыць тонкім слоем на праveўным месцы (напр. на таку ў гумне), каб абсохла і занялася скарынкай. Калі-ж нанач пагражаў-бы прымаразак, дык тады разложаную гэтак бульбу трэба прыкрыць в о г к а й саломай.

Што датыча падбору глебы, дык бульба родзіць усюды, найлепш аднак на глебах лёгкіх; лепш любіць мясцы сушэйшыя, як падмочаныя. У севазвароце найлепш садзіць бульбу пасьля добра гноенай азіміны, на канюшынішчы, па зерна-бабовай мешанцы. Аднаго вымагае бульба добра і чыста з восені яшчэ выробленай глебы і, натуральна, добрага ўгнаеньня. Хлеўны гной на цяжэйшыя (гліна) глебы трэба даваць яшчэ з восені, а на лягчэйшыя - можна і вясной. З штучных угнаеньняў бульба асабліва ўдзячна за угнаеньні паташавыя.



**Значнік звычайны**
у форме вялікіх грабель.

Спосабаў саджэньня бульбы ёсьць шмат. У нас знаюць толькі саджэньне за плугам, цераз адну ці цераз дзьве баразны. На лёгкіх глебах з гэтым можна і пагадзіцца, асабліва калі ўсьлед за плугам ідзе работнік з граблямі і зграбае ў баразну гной, а другі работнік садзіць бульбу, але не на дно баразны, а ў мякіш баразьнянай ськівы (гэта важна!) Глыбка, да каторай садзіцца бульба, залежа ад розных варункаў і бывае 5—15 см. Большыя бульбіны садзім глыбей як меншыя, цэлыя глыбей як рэзаныя. Чым драбней сяўбавая бульба парэзана, тым мялчэй трэба яе садзіць. Мялчэй таксама садзіцца бульба раньняя, а глыбей—позная. На цяжэйшых глебах садзяць бульбу не пад плуг, а ў разоры ці ў ямкі пад лапату або пад матыку. Вымагае гэта больш працы, часу, снасьці, але й лепшыя дае ўраджаі. Саджэньне ў разоры асабліва важнае на грунтох падмоклых. Ёсьць да гэтага — для большых гаспадарак — алумысныя трыполiныя плугі, з паліцамі такімі, як у плуга да аборываньня бульбы. У меншых гаспадарках з бяды можна абыйсьціся звычайным плугом да аборываньня Тым ці іншым спосабам выганяюцца спачатку мелкія да 5 см. раўкі (барозны), на адлежнасьці ад сябе 50—60 см. У гэтыя раўкі садзяцца бульбіны што 30—50 см. А тады паміж кожных дзьвюх засаджаных бароздаў праганяецца баразна трэцяя, якая за раз засыпае першыя дзьве.



**Значнік Жордана.**
Мае тры плужкі. З правага боку дададзены сьляпы значнік, па каторым пойдзе наступная баразна.

Пад лапату ці пад матыку садзяць бульбу на грунтох добра выробленых і непадмоклых. Рады і мясцы, куды трэба садзіць бульбу, вызначаюць крыжаваньakazalisia asieliščami najbolej pieršabytnych formaŭ kulturnych raślin.

U hetych miascoch pachodžańnia raślin Vavilaŭ bačyć pieršabytnyja asiarodki ziemlarobstva. Hetamu spryjała vialikaje bahaćcie raślin, a davolny lik vopadziaŭ davaŭ mahčymaść razvodzić rośliny biez navadnieńn a. Na nievialikich ručajoch ziemlarob zrabiŭ i pieršyja proby navadnieńnia. Da padobnych vynikaŭ zusim niezaležna ad Vavilava, dajšoŭ amerykanski daśledčyk O. Kuk, katory ścvierdziŭ asiarodki tamašniaha ziemlarobstva nie na raźlehłych uzhorjach Meksyku, ale ŭ mnohaličnych vuzkich dalinach hor Andaŭ.

Jakoje ž značeńnie dla ziemlarobstva majuć zdabyčy Vavilava? A voś:

Praktyk-hadoŭca tracić šmat času, pakul vyhaduje jakuju palepšanuju admienu kulturnaj rašliny. A tymčasam adna vyprava ŭ miesca pachodžańnia hetaj raśliny moža ŭ praciahu hodu dać tysiačy jejnych admienaŭ. Dokazam zrazumieńnia hetaha jość šmatlikija cennyja vypravy (pajezdki) ŭ krainy paŭdzionnaj Ameryki pa novyja hatunki bulby. Paśla savieckich vypravaŭ u 1925-26 h i ŭ 1927 28 h. h., katoryja adkryli niekalki novych hatunkaŭ bulby, hetyja krainy ŭžo adviedali vypravy: niamieckaja, švedzkaja, dźvie paŭnočna-amerykanskija j nareście treciaja savieckaja, — kožnaja z ich uściaž adkryvała novyja formy hetaha važnaha koranpłodu. Na daśledčych stancyjach roznych krainaŭ, asabliva ŭ Niamieččynie, razvodziacca sotni tysiačaŭ miašancaŭ bulby. Takim šlach m sučasny hadoŭca imkniecca stvaryć novyja hatunki, bolej adpornyja na chvaroby j błahija klimatyčnyja ŭmovy (ściuža, suša) i adnačasna stałyja pa jakaści i ŭradžaju.

*Apracavaŭ i skaraciŭ U. Paŭ—s k i.*

# Садзіце пашныя буракі.

Ракопніна — гэта вялікая ўспамога ў пашных запасах гаспадаркі. Бульба ўспамагае жывёлу кормленую на мяса, а буракі — жывёлу кормленую на малако.

Ёсьць многа сартоў кармовых буракоў, якія трэба выбіраць залежна ад таго, у якую зямлю маемся іх садзіць. І так:



**Пашны бурак Эккендорф.**

Вялікія збанаватыя буракі ЭККЕНДОРФ'ы растуць, можна сказаць, наверсе глебы і таму вымагаюць зямлі моцнай, клустай, цяжкой, як гліна, глей. Але ўдаюцца яны і на грунтох лягчэйшых, абы толькі былі добра выраблены і пагноеныя.



Пашныя буракі:
**Мамут** **Поўцукровы**

Бурак сорту МАМУТ запускае карэньне глыбака ў глебу і таму здольны расьці на грунтох лягчэйшых.

Урэшце бурак ПОЎЦУКРОВЫ ўдаецца на ўсялякіх землях. А таму, што ён мае шмат цукру і вялікую кармовую вартасьць, дык заслугоўвае на найшырэйшае стасаваньне.

Яшчэ раз трэба зазначыць, што кармовы бурак ёсьць пашай выразна малакагоннай. *С. Я—ч.*

---

нем асобнага значніка, у форме вялікіх грабель з вялікімі зубамі. Прад гэтым крыжаваньнем поле павінна быць угладжана гладкім валам. Прыкрытую гэтак лапатай і матыкай бульбу трэба яшчэ прыараць.

На гэктар высаджваюць драбнейшай бульбы ад 10 да 15 q q=100 кілё), а сярэдняй—ад 15 да 25 q.

Абыходзіць бульба праз тры-чатыры тыдні. Першы дагляд бульбы—гэта баранаваньне, каб дапусьціць да карэньняў паветра. Далей—бульбу аборываюць або абкопчываюць матыкай—змушае гэта бульбу пускаць больш падземных растоў, на каторых насаджваюцца завязі бульбін. Аборываньне бульбы на глебе лёгкай лішне яе прасушвае і таму замест плуга найлепш тут ужыць матыку.

На прыгатаваньне, пасадку і ўборку бульбы з 1 га трэба 90 працадзён.

**А. К.**

---

# Супроць чырвонкі ў сьвіней.

З прыходам вясьняных цёплых дзён пачынаюць множыцца розныя заразныя хваробы гаспадарскай жывёлы, перадусім сьвіней. Чаму сьвіней? А проста таму, што ніводная гаспадарская жывёла не пакінена так „на ласку лёсу“, як пакінена сьвіня: корм падаецца ей такі, якога ўжо ніводная жывёла ня прыйме, хлявок для сьвіні мокры, цёмны, руху ніякага—усё гэта разам узятае аслабляе найздаравейшую жывую істоту і робіць яе нявдольнай даць адпор цэлым хмарам хваробных зародкаў, якія вясной пачынаюць размнажацца і шукаць ахвяр з нячуванай сілай.

Азнакі хворага на чырвонку парасяці агульна ведамыя: падыймаецца гарачка да 41—42°Ц (нармальная цяпліня цела сьвіні 39°Ц), ня хоча есьці, робіцца сонным, аслабленым, скора дыхае; жывёла пры гэтым пераважна ляжыць закапаўшыся ў падсьцілку, павекі мае напохшыя, спачатку мучыць яе затрыманьне, а пасьля наступае праціўна сьмярдзючае развальненьне, часам з дамешкай крыві. На другі дзень хваробы скура чырванее на ўнутранай старане сьцягна, на шыі, на вушах, на бруху, расшыраючыся згэтуль часта на ўсё цела. Плямы гэтыя спачатку бываюць сьветлыя, а пасьля цямнеюць. — Гэткае вострае захварэньне жывёлы на чырвонку ў 50—85 прац. кончыцца сьмерцю.

Ад гэткай чырвонкі трэба адрозьніць гэтак званую „крапіўніцу“, пры каторай хворая жывёла гарачкуе, смагне, траціць апэтыт, мучыцца ад затрыманьня, спадае з ног і ўрэшце, па 7—10 днёх, выздароўлівае.

Як ад чырвонкі бараніцца?

Проста трэба сказаць, што сягоньня ў Польшчы лячэньне ад чырвонкі фактычна змонополізавала для сябе хэмічна-фармацэўтычная фабрыка Клявэ, якая вырабляе два лекі да шчапленьня здаровых і хворых ужо жывёл. Ёсьць гэта хваробная сыраватка і культура чырвоначнага зародка. Прышчэпліваючы здароваму *(на кожныя 10 кілг. жывой вагі 1 куб. см. сыраваткі)* ці хвораму *(на 10 кілг. ж. в. 2 куб. см. сыраваткі)* парасяці хваробную сыраватку забясьпечваем яго ад хваробы на 2 тыдні. А калі шчапіць культурай чырвоначнага зародка, дык забясьпечваецца жывёла на паўгода. Шчапіць сыраваткай можа кожны, хто гэта толькі рабіць патрапіць і хто мае адпаведны інструмант (шпрыц). Шчэпіцца пад скуру за вухам, або над каленам ці на ўнутранай старане сьцягна. — Шчапіць культурай чырвоначнага зародка можа толькі вэтэрынар. Жывёла раз прахварэўшая на чырвонку бясьпечна ад яе ўжо на цэлае жыцьцё.

Прышчэпліваньне проціў чырвонкі аднак каштуе грошы. Найлепш шчапіць на супалку, прывозячы вэтэрынара з паветавага Сойміку да 40—50 сьвіней, Тады шчапленьне хваробнай сыраваткай не павінна абыйсьціся даражэй як 40 грашоў ад штукі.

Пагаспадарску аднак бяручы справу, лепш ня знацца з гэтымі лекамі і хваробамі. І гэта можа быць. Але тады трэба сьвіней чыста і здарова трымаць, не дапускаць да іх чужых людзей і самых сьвіней ня пускаць лятаць па публічных дарогах, памятаючы, што хваробныя зародкі чырвочкі знаходзяцца ў гнаі і наагул выдзелінах хворай жывёлы, якімі заражаюцца хлявы, карыты, паша, дарогі, сьцежкі, воды і ўсё што з гэтым так ці йнакш стыкаецца. Небясьпечны, рэч ясная, і супольныя вясковыя пасьбішчы. Але ня можна сьвіней трымаць і замкнёнымі ў хляве: найлепш мець для іх выгараджанае асобнае пасьбішча, а прынамся выган, куды ніхто чужы ня мае доступу.

Калі-ж няшчасьце трапіцца і чырвонка да жывёлы дастанецца, дык закон наказвае, каб найпазьней у 24 гадзіны ад часу заўважаньня яе, канешна паведаміць па-

# Як самому зрабіць мёдагонку.

Навукоўцы вырахавалі, а практычныя пчаляры даўно ўжо пацьвердзілі, што пакуль пчала зробіць адзін кілёграм воску дык зьесьць аж 32 кілёграмы мёду. Ясна з гэтага, як цэннай ёсьць у пчалярстве кожная крошка воску. А тымчасам гэты воск нішчыцца на-права і на-лева, асабліва пры лазьбінах без мёдагонкі, калі ўсе плястры воску бязмысна крышацца і, дамешваючыся да мёду, вельмі яго абясцэніваюць. А пасьля, у поўны час мёдазбору, калі дарагой бывае для пчалы даслоўна кожная хвіліна, — бо кветкі мёдадаі хутка перацьвітаюць — працавітыя пчолкі ня маюць куды зьліваць набранага мёду і змушаны перастаць яго зьбіраць ды брацца да выпрацоўваньне дарагога воску.

Ці-ж гэтак мусіць быць? Што-б мы сказалі аб такой гаспадыні, якая выліваючы малако з бана, сам збан разьбівае, а па новы збан пасылае да ганчара толькі тады, калі надоіць поўныя даёнкі сьвежага малака? А ці-ж інакш паступае той пчаляр, які бяручы ад пчолаў мёд, крышыць разам і дарагія плястры воску?

Каб ня быць падобным гэткаму неразумнаму чалавеку, кожны пчаляр паасобку, ці хоць-бы на супалку з суседам, павінен мець мёдагонку, тым-больш што яе можна зрабіць самому паводле далучаных рысункаў.

Рысунак 1-шы прадстаўляе мёдагонку найпрасьцейшую, якую можна зрабіць. Складаецца яна *(Рыс. 1, літара А.)* з нярухома на стале ўмацаванага цабэрка ці дзяжы, сьцены катарага зроблены з лістовага дрэва, або з цынкаванай бляхі (аркуш бляхі 75 см. ушыркі, 150 см. удоўжкі). Дно мусіць быць ня плоскае але пасярэдзіне крыху прыпаднятае. На прыпаднятую сярэднюю часьць дна прымацоўваецца мэталёвая (толькі не жалезная) ці з цьвёрдага дрэва падкладка *(рыс. 1, частка 6 і 7)*, на каторай апіраецца вось з убітымі ўверсе і ўнізе крыжакамі *(рыс. 1, частка 2)*. Сподняя часьць гэтай васі хутка сьціраецца і таму яна так устроена, каб яе можна было замяняць новым вострым наканечнікам *(рыс. 1, частка 5)*; верхняя часьць васі *(рыс. 1, частка 4)* праходзіць праз раму. На верхні канец васі надзяецца адпаведна дапасаваная ручка *(рыс. 1, частка 3)*, каторая служыць як корба. Чым карацейшая гэта ручка, тым цяжэй круціць мёдагонку, але тым шпарчэй яна круціцца.

На канцы крыжакоў надзяюцца (зьверху ўніз чатыры моцныя дзераўляныя (з лістовага дрэва) ці мэталёвыя (не жалезныя!) ліштвы, якія апясваюцца сеткай з цынкаванага дроту. Драціна ад драціны не далей як 3—4 мм. Атрымоўваецца гэтак усярэдзіне нярухомага цэбра рухомае матавіла, стацьма завешанае на васі. Бок гэтага матавіла (паміж дзьвюма раўнабежнымі ліштвамі), ня сьмее быць вузейшы за 33 см. і карацейшы за 49 см., каб памясьціць рамку з вульля Лявіцкага.

Рамкі з мёдам і разначаныя да выкручваньня стаўляюцца насупроць, сябе плашмя да драцяных сьценак рухомага матавіла. Заўсяды трэба ставіць у мёдагонку дзьве ці чатыры рамкі, каб была роўнавага. Мёдагонка павінна стаяць моцна, не калытацца. Пачынаць круціць мёдагонку трэба памалу, ступянёва пераходзячы да ўсё шыбчэйшага разгону. Чым шыбчэй круціцца мёдагонка, тым хутчэй і чысьцей выкручваецца з плястроў мёд. Цэнтрагонная сіла кідае мёд на сьцены мёдагонкі; па сьценах-жа сплывае ён уніз і выцякае з крану *(рыс. 1, частка 1)* ў падстаўленую судзіну.




*Рыс. 1.* **Найпрасьцейшая мёдагонка хатняй работы.** Частка 1: А — нярухомая сьценка мёдагонкі з цынкаванай бляхі ці з лістовага дрэва; унізе над лічбай 1 знаходзіцца кран, каторым выцякае выкручаны мёд. В — драцяная сетка з нацягненага на матавіла цынкаванага дроту. Частка 2 — вось рухомага матавіла. Част. 3 — простая корба з ручкай. Ч. 4 — верхняя частка васі матавіла, на якую надзяецца корба. Ч. 5 — заменная сподняя часьць васі матавіла. Ч. 6 — гняздо, на каторае апіраецца вось матавіла. Ч. 7 — дно мёдагонкі разам з прымацаваным гняздом для васі матавіла.




*Рыс. 2.* **Простая мёдагонка з шрубавай корбай.** 1 — верхняя прыкрыўка; 2 — конусавідны шруб да корбы, 3 і 4 — корба.

На *рыс. 2-ім* прадстаўлена мёдагонка больш удасканаленая, але затое і даражэйшая. Розьніцца яна ад папярэдняй ужо самым вонкавым выглядам: пастаўлена на нагах, мае прыкрыцьцё (дзьве паловы), а галоўнае — мае шрубавую корбу, якая пазваляе значна меншай сілай шыбчэй круціць мёдагоннае матавіла. Таму й работа гэтай мёдагонкай шыбчэйшая і чысьцейшая.

На заканчэньне адна ўвага: Кошт устройства мёдагонкі аплачваецца ўжо ў першым сэзоне. Таму ніводзін пчаляр сягоньня без мёдагонкі ня можа абыйсьціся, памятаючы, што „два вульлі і мёдагонка — гэта тры вульлі“. Напэўна! А можа й болей. *В. Ш—к.*

*СЯГОНЬНЯ ўстрымана высылка „Самапомачы“ для 200 асоб, якія дагэтуль яе не аплацілі, Выпішыце падпіску зараз-жа, каб ня стрымалі наступнага нумару і Вам!*

---

ветавыя вэтэрынарныя ўлады непасрэдна (тэлефонам з найбліжэйшай пошты — дарма!) ці пасрэдна праз солтыса або гміну. Урадавы вэтэрынар павінен усталіць хваробу, а калі-б сталіся якія шкоды пры сьцісльм выконываньні загадаў казённага вэтэрынара, дык можна даходзіць законнага ў такіх выпадках вынагараджэньня.

*С. С—скі.*

*КУТОК ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ.*

## Больш варыва!

Усе лекары сягоньня згодна кажуць, што людзі былі-б далёка здаравейшыя, калі-б елі больш варыва, а менш мяса. Наш беларускі селянін, праўда, надбыткам зьяданага мяса „ня грэшыць,“ тымбольш затое мусіць мець добрага варыва.

**Саджэньне варыва** Добры ўраджай варыва залежа ўжо ад самага пасаджэньня расады, якое агароднікі называюць пікаваньнем. Перш як прыступіць да пікаваньня, трэба прыгатаваць градку і разьмерыць мясцы, куды маемся расаду садзіць. Памагае гэта больш ашчадна выкарыстаць на градцы месца, а само варыва лепш расьце. Азначаецца месца гэтак: шнурком нацягненым з аднаго канца градкі ў другі, па ўгладжанай зямлі робяцца шнары, адзін ад другога на 6—10 см. Гэтыя шнары перасякаюцца накрыж гэтаксама праведзенымі шнарамі, адлеглымі ад сябе так-жа на 6—10 см. Кожнае другое перасячэньне гэтых шнароў, гэта месца дзеля пасадкі каліва расады. Уважаць пры гэтым трэба, каб у двух сумежных радох садзіліся калівы расады ня побач сябе, але ў пераменку.



**Вызначэньне** месца пад расаду.

Калі градка ўжо прыгатаваная, прыступаем да самага пікаваньня. Расаду, празначаную да пікаваньня, за некалькі гадзін прад выйманьнем з расадніка паліваем вадой праз сітка, каб змочаная зямля лепш трымалася на карэньчыках. Тады кожнае такое каліва, ці цэлы куст расады, падважваем асьцярожна вузкай лапаткай ці калочкам і выбіраем. Калі градка знаходзіцца тутжа побач, дык выбраную з расадніка расаду зараз-жа садзім такой, якой яна ёсьць. А калі выбраную расаду трэба куды далей пераносіць ці перавазіць, дык карэньне ейнае абкручваем вогкім мохам ці абсыпаем зямлёй, прад тым намачыўшы ў рэдкай гліне, разьведзенай у вадзе, з дадаткам аднэй трэціны гнойнай жыжкі. — Само саджэньне расады паказана на рысунку дальшым (дзьве расьлінкі з правага боку), і выглядае гэтак: Адумысна прыгатаваным калочкам робім ямку, у каторую і ўстаўляем каліўца расады. Уважаем пры гэтым, каб каліўца заглыбілася ў ямку крышку глыбей, як яно было ў зямлі перш, а карэнь каб роўна зьвісаў уніз; калі карэнь захіліцца канцом уверх, дык каліва ня прыжыве і засохне.



**Як садзіць расаду:** 1. кепска пасаджаная, 2. добра пасаджаная.

Каб прыгарнуць гэтак устаўленае каліўца зямлёю, побач яго і на ўкос упіхаем той-жа калочак так глыбака, як глыбака зроблена першая ямка. Паварачваючы гэтым калочкам у кірунку засаджанай расьлінкі, абціскаем яе цесна зямлёй, ад самага нізу і да самага верху. Гэтак усаджаная расьлінка хутка зрастаецца з зямлёй, асабліва калі паліць яе вадой праз сітка і праз першыя 2—3 дні закрыць нечым ад сьвету праз цэлы дзень, а пазьней толькі ў палудзень, аж пакуль ня пусьціцца расьці новыя лісткі. Правільна перасаджаная расада спачатку пацямнее, але хутка схамянецца і праз 3—5 дзён павінна прыжыцца.

**Дагляд варыва** Пасаджанае варыва патрабуе дагляду ў форме паліваньня і полива. Паліваць расаду трэба цёплай (ня з студні), адстаяўшай вадой з конаўкі бяз с і т к а. Каб струя ня была вельмі сільнай, у лейку ўпіхаецца жмуток саломы. За раз шмат выліваць вады ня можна, бо нават з вельмі перасохлай глебы яна або сплывае, або „запякаецца.“ Лепш паліць крыху, а пасьля, калі гэта вада ўп'ецца ў зямлю, паліць раз другі і нават трэці. Паліўшы з конаўкі паасобныя калівы варыва, трэба мокрае месца прыцярушыць сухой зямлёй, якая не пазволіць вадзе хутка выпарыцца. Пры сонечнай пагодзе а паўдня паліваць ня можна: трэба паліваць раніцай, а найлепш увечары, па заходзе сонца.

Усякае пустазельле шкодна ўсюды, а асабліва у варыве, дзе забірае цэннае месца, ваду, спажыўныя сучасткі, гадуе на сабе розных шкоднікаў, якія пасьля пераходзяць і на варыва. Асабліва шкодна такое зельле, як асот, малачай, крапіва і інш. Ім у агародзе ня месца. Выпалатае пустазельле трэба зараз-жа з агароду чыста сабраць і або скомпоставаць (ня кідаць на гнайнік!), або найлепш спаліць і попел сабраць на пазьнейшае ўгнаеньне. *В. Р.*

## Гаспадарчая хроніка.

**Забаронены вываз.** Распараджэньнем Рады Міністраў з дня 7 г. м., да 31.VII. сёл. забаронены вываз заграніцу пшаніцы, жыта, аўса і ўсякіх вырабаў з гэтага збожжа.

**Пазыкі на будоўлю.** Цэнтральная Каса Земляробскіх Супалак пачала выдаваць пазыкі на будову для земляробскіх гаспадарак. Гаспадарка да 20 га можа атрымаць найменш 100 і найбольш 600 зл. пазыкі, — сплатных да 8-мёх гадоў, апрацэнтаваных па 4 зл. з соткі ў год. Пазыкі выдаюцца толькі праз мясцовыя пазычковыя касы з парукай 2—3 гаспадароў. Безпасярэдна з Цэнтр. Касы ніхто пазыкі не дастане.

**Ці абніжаць цэны на штучныя гнаі?** На паседжаньні Міністэрскай Камісіі Кантролі Цэнаў дня 15 г. м. разглядаўся праект абніжэньня цаны штучных гнаёў („парашкоў“) на вясьняны сэзон. Ніякай пастановы аднак не прынялі. Ды й ці яе калі прыймуць? А час ідзе.

**Бэконярня ў Нова-Вялейцы,** на пераробку да 40 тысяч сьвіней у год, хутка мае быць выканчана. Будавалася гэта бэконярня за грамадзкія грошы з гэтак званага „Фонду Працы.“ Часьць капіталу ўлажыў прыватны прамысловец з Пазнаншчыны, які мае й арэндаваць усё прадпрыемства на свой прыватны рахунак.

Другая бэконярня праектуецца ў Горадні.

**Асьцярожна з „запальнічкамі.“** Ад 1 красавіка увайшоў у сілу новы скарбовы закон з 5.XI.1936 г., паводле якога, паміж іншым, кожны, у каго знойдуць н е ш т э м п л я в а н у ю машынку да запальваньня (штэмпаль каштуе 10 зл.!), будзе штрафавацца штрафам ад 50 да 100 зл. Гэтасамая кара пагражае і таму, хто гэткімі машынкамі ці каменьнямі да іх гандлюе.

**Агульны Гадавы зьезд польскай земляробскай кооперацыі.** Прыгатаваныя да Гадавога зьезду Саюзу земляробскіх коопэратываў ідуць поўнай парай. На 1.IV. Саюз налічаў сарганізаваных 5.283 коопэратывы з 1.516.320 сябрамі. Справаздаючы год, па пакрыцьцю леташняга доўгу, Саюз замыкае надвыжкай у суме 1,882 зл.

**Папраўляюць сенажаці** жыхары Войстамскай гміны., Вялейскага пав., сарганізаваўшы на гэта 15 конкурсных супалак. Спосабамі і рэзультатамі гэтай працы павінны зацікавіцца жыхары гмін суседніх.

**Рэгуляваць р. Шчару** пастанавіла самаўрадавая конфэрэнцыя ў Слоніме 19 г. м Наўперад будзе сыпацца па левай старане абаронны вал, а пасьля будуць перакопываць і паглыбляць старое русло ракі, якім будзе спускацца вада ў час вялікага напору. Праца мае пачацца ўжо 1 мая сёл.

**На рэботы ў Латвію** з Віленшчыны выехалі сёлета 6 тысяч асоб.

**А наш лес усё вывозяць.** Паводле статыстычных аблічэньняў, за мес. сакавік з Віленшчыны было вывезена заграніцу 5,200 тон папяроўкі, 14.600 тон пілоўкі, 3.500 куб. м. дыкты, 20 вагонаў смалы, 6 вагонаў тэрпатыны, 13 000 клгр. драўлянага вугля і 106 тон картону. - Найбольш гэтага тавару йдзе з абшарніцкіх лясоў, абшарнікі за гэта зграбаюць даходы, а край цэлы пусьцее. Нешта тут не ў парадку.

**Мыла мусіць патанець на 10 працэнтаў**—гэтак пастанавіла камісія кантролі цэнаў на паседжаньні 20 г. м.

**Мука, хлеб і крупы ў Вільні** Паводле распараджэньня Віленскага Гарадзкога Старасты, ад 15 г.м. ў Вільні абавязваюць гэткія цэны на муку, хлеб і крупы: за 100 кілёграмаў жытняй бела-пітляванай мукі — 32 зл. 50 гр., а за 100 кл. мукі разовай 25 зл. — У дэталю за 1 кілё ўстаноўлены гэткія цэны:

| | |
|---|---|
| хлеб жыт. пітляв. белы (65%) | 34 гр. |
| хлеб сітні . . . . . . . . | 32 „ |
| мука жытняя пітляваная . | 35,5 „ |
| мука жытняя разовая . . | 28 „ |
| пансак, гурт . . . . . . . | 34 „ |
| пансак, дэталь . . . . . . . | 9 „ |
| крупы ячменныя лепшыя, гурт | 42 „ |
| „ „ . дэталь | 46 „ |
| крупы пэрловыя, гурт | 44 - 50 „ |
| „ „ дэталь | 50—57 „ |
| крупы манныя, гурт . . . . | 53 „ |
| „ „ дэталь . . . | 61 „ |

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *20.IV.37 за 100 кл.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . | 23.00 - 24.00 |
| Пшаніца . . . . . | 29.2 —30. 5 |
| Ячмень . . . . . | 23.25— `4.75 |
| Авёс . . . . . . . | 21.50—22 75 |
| Грачыха . . . . . . | 29.25—29 75 |
| Мука пшонная . . . | 32.00 45.00 |
| Мука жытняя, да 65% | 32 50 |
| Мука жытняя разовая | —25.00 |
| Вотрубы пшонныя . | —15.80 |
| Вотрубы жытнія . . | —15.25 |
| Пялюшка . . . . . | 18.50—19.50 |
| Віка . . . . . . . . | 21.00 - 22.00 |
| Лубін сіні . . . . . | 13.25—13.75 |
| Семя лянное . . . . | — |
| Лён трапаны(1 000кілё) | 1 820 —1.900 |
| Лён часаны . . . . | 2.020 2.060 |
| Кудзеля . . . . . . | 1.700 - 1.740 |

**Малочнае,** *14.IV.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 2 60—2.70 |
| „ „ дэталь | —3.30 |
| Масла сталовае гурт . | 2 50 —?.60 |
| „ „ дэталь | —2.90 |
| Сыр эмэнтальскі гурт . | 2.60—2.70 |
| „ „ дэталь | —3.20 |
| Сыр літоўскі гурт . | 1.40—2.20 |
| „ „ дэталь | 1.60—2.40 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 2.60—3.30 |
| „ ў дэталю за штуку | 5—6 гр. |

# Што чуваць на сьвеце

## Саветы і Нямеччына.

Спачатку быццам стыдаючыся, а пасьля штораз сьмялей пішаць газэты ўсяго сьвету аб перагаворах паміж Саветамі й Нямеччынай. Нямеччына, прыцісьненая гаспадарскімі хлапотамі, быццам зьвярнулася да Саветаў з прапановай падпісаць гаспадарскую ўмову, але Саветы меліся ад гэтага адмовіцца, заяўляючы, што пакуль няма згоды палітычнай, ня можа быць ніякіх умоваў і гаспадарскіх. — Ці пасьля гэтага вядуцца нейкія перагаворы палітычныя, — афіцыяльна нічога няведама. Затое ўнутраныя перамены ў абодвух краёх бязумоўна многа кажуць самі за сябе. З аднэй стараны паварот да публічнага жыцьця ген. Людэндорфа, ведамага староньніка Расеі і праціўніка Італіі, а з другой — вельмі аснаўныя „чысткі“ ў Саветах — гэта бясспрэчныя факты, за якімі можна чакаць найбольшых „неспадзевак“.

## На палёх Гішпаніі.

На мадрыцкім фронце паўстанцы ўтрымаліся толькі ў „унівэрсытэцкім гарадку“. Наступ паўстанцаў на край баскаў таксама тымчасам стрыманы, бо баскі моцна і заўзята бароняць сваей незалежнасьці, якую паўстанцы хочуць ад іх адабраць. Паўстанскі флот абставіў мінамі баскійскі порт Більбао, недапускаючы туды нічыіх ганд ёвых караблёў. Супроць гэтага рашуча выступіла Англія, цьвердзячы, што гэткі паступак ёсьць нарушэньнем міжнароднага права. Англіцкія караблі вязьлі ў Більбао толькі спажывецкія прадукты для акружаных з усіх бакоў баскаў. — Сярод агульнага зацішша на фронтах, пайшла па сьвеце вестка аб тым, што галоўныя гішпанскія ваякі (спэцыялісты) з абедзьвюх старон быццам тайна згаварыліся кончыць братабойчыя бойкі і змусіць палітыкаў абедзьвюх старон да перагавораў на гэткіх асновах: 1. адстаўка ген. Франка (павадыр паўстанцаў) і прэм'ер-міністра Кабалера (урад), 2. утварэньне непалітычнага ўраду, які ўстанавіў-бы мір, 3. высяленьне ўсіх чужаземных ваякаў і дарадчыкаў.

## Морскія збраеньні Саветаў.

Англіцкія газэты пішуць аб плянах вялікіх збраеньняў савецкіх на моры. Паводле гэтых вестак, Саветы хочуць дагнаць сваю суседку Японію, якая, не гаворачы аб караблёх, самых матросаў мае 100.000 чалавек, тады як Саветы іх маюць усяго 23.000. Дык работу будуць мець не малую.

Апрача таго цікавы ёсьць сам плян перабудовы галоўнай стаянкі ваеннага савецкага флоту: пераносіцца яна быццам з Фінскага заліву на Балтыцкім моры ў Мурманск на Белым моры. Новая стаянка тым мае быць лепшай, што: 1. круглы год не замярзае, 2 бясьпечная ад падмінаваньня, 3. ад 1933 г. злучана мурманскім (сталінаўскім) каналам з морам Балтыцкім і 4. плянуецца спалучэньне Мурманска з чыгункай сібірскай.

## Выбары ў Бэльгіі.

Дапаўняючыя выбары ў Бэльгіцкі парлямэнт з абводу сталіцы Бруссэль адбыліся 11 г. м. Супроць сябе змагаліся галоўным чынам блёк цэнтравікоў і лібэралаў на чале з прэм'ерам ван-Зээлянд'ам і фашысты (рэксісты) на чале з Дэгрэль'лем. Перамог ван-Зээлянд, на якога галасавала 276 тыс. выбаршчыкаў; Дэгрэль атрымаў 69 тыс. галасоў. Прад выбарамі супроць фашыстаў выступіў бэльгіцкі кардынал. І хоць фашысты (Дэгрэль) адразу былі гатовы здаволіць усе вымаганьні Касьцёла, то аднак ім гэта ўжо нічога не памагло.

Асаблівасьцю бэльгіцкага фашызму ёсьць імкненьне прымірыць дзьве розныя нацыі засяляючыя Бэльгію: валёнаў і флямандцаў.

## Пасьля ўгоды Гітлера з Людэндорфам.

Цяжар угоды Гітлера з Людэндорфам тымчасам адчуваюць нямецкія каталікі. Раз што цяпер пачалі неагранічана дзеяць востра процікаталіцкія арганізацыі Людэндорфа, а далей, — дзяржаўныя ўлады пачалі выдаваць розныя процікаталіцкія распараджэньні. Гэтак напр. школьныя ўлады забаранілі школьным дзяцям часьцей як адзін раз у тыдні хадзіць у касьцёл і зусім забаранілі хадзіць у выхаваўчыя ўстановы (дзіцячыя садкі), кіраваныя законьнікамі. Каталікі з свайго боку проціўдзеяць унутранай моральнай дысцыплінай.

## Японцы не супакойваюцца.

Урад японскі заняты цяпер прыгатаваньнем выбараў у парлямант, якія назначаны на 30 г. м. Папярэдні парлямант быў распушчаны без пары, бо ўрад, зложаны з прадстаўнікоў войска, ня мог з ім дагаварыцца. Як дагэтуль, дык ня выглядае, каб гэты ўрад здабыў большасьць і ў парлямэнце новым. Палажэньне ўраду становіцца йшчэ цяжэйшым дзеля таго, што ў самых вайсковых кругох заўважваюцца нелады паміж сухапутнікамі і маракамі: адны з іх пруць усей сілай на ўсход (Азія), а другія на паўдня — супроць Амэрыкі.

